Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы— выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 28 (80) | Вільня, 29-га кастрычніка 1935 г. | Год 3-ці.

## Лепей позна, чым ніколі.

Шмат пісалася і пішацца ў беларускай прэсе аб патрэбе навучаньня беларускіх дзетак Закону Божаму ў зразумелай для іх, роднай, беларускай мове, а разам з гэтым разглядалася і другая справа, ня менш важная для беларускага народу,—справа беларусізацыі царквы на нашых беларускіх землях. Доўга прышлося пераконваць тых, ад каго залежыла позытыўнае вырашэньне гэных справаў, ажно ўрэшце як адна, так і другая крануліся з месца.

7-га кастрычніка гэтага году віленскі архіепіскап Феодосі выдаў загад, аб навучаньні Закону Божаму беларускіх дзяцей у іх роднай, беларускай мове. Загад гэны ніжэй цалком зьмяшчаем:

„Віленскай духоўнай кансісторыі. З перапіскі па законавучыцельскім справам я бачу, што некаторыя а.а. законавучыцелі ў прыходах з беларускім насяленьнем не выкладаюць у школах Закон Божы на мясцовай матчынай мове, гэта значыць беларускай, з якой прычыны паўстае незадаваленьне з боку адміністрацыі школ і часткі насяленьня і паўстае перапіска шкодная для справы і для самых законавучыцялёў.

Прадпісваю духавенству дакладна выпаўняць загад аб выкладаньні Закону Божага ў школах на матчынай мове, а дзеля таго ў прыходах з беларускім насяленьнем — выкладаць Закон Божы на мове беларускай. (—) Архіепіскап Феодосі".

Вітаючы гэты загад архіепіскапа Феодосія, мусім сьцьвердзіць, што сярод нашых духоўных уладаў знайшліся людзі, якія зразумелі бясспорную „ісьціну", што **аснаўным правілам пры навучаньні дзяцей зьяўляецца неабходнасьць пачынаць ад вядомых ім рэчаў,** а перш за ўсё прамаўляць да іх у зразумелай, роднай для іх, мове. Можа гэты добры пачатак зьявіцца прыкладам да насьледаваньня і выкліча ў іншых нашых вышэйшых духоўных уладаў зразуменьне неабходнасьці выданьня такіх загадаў у іншых беларускіх епархіях, як у городзенскай ды пінскай. І калі такога зразуменьня ў іх няма яшчэ сягоньня, то бязумоўна, яно зьявіцца праз нейкі час і там, бо да яго прывядзе само жыцьцё. І чым хутчэй гэта стане, тым будзе карысьней для Царквы і для нашага народу.

Бяссумліўна загад віленскага архіепіскапа дасьць магчымасьць праўдзівым і шчырым законавучыцялём блізка падыйсьці да беларускіх дзетак і сапраўды пазнаёміць іх з аснаўнымі паняцьцямі хрысьціянства, але з другога боку, магчыма, знойдуцца і іншыя „законавучыцялі", якія не захочуць споўніць гэнага загаду, паклікаючыся на, быццам, нежаданьне бацькоў (тых-жа самых беларускіх дзетак) вучыць сваіх дзяцей Закону Божаму ў роднай мове, даказваючы гэтае нежаданьне сабранымі подпісамі бацькоў і т. п. Восьжа сьмела можна сказаць наперад, што ў гэткіх прыпадках выявіцца толькі злая воля законавучыцялёў, бо-ж як зьбіраюцца ў нашыя часы подпісы на розныя сумлёўныя рэчы, над гэтым хіба ня трэба доўга затрымоўвацца.

Ізноў-жа магчыма, што пэўная частка законавучыцялёў неахвотна будзе пераходзіць пры навучаньні на беларускую мову, якой добра ня ведае, асабліва-ж мовы беларускай літэратурнай. Добра сталася, што зараз-жа пасьля загаду віленскага архіепіскапа, віленская кансісторыя на прапазыку законавучыцеля віленскае беларускае гімназіі а. пратаіерэя Кульчыцкага, прыняла пастанову аб неабходнасьці як найхутчэйшага зарганізаваньня курсаў беларусазнаўства для тых законавучыцялёў, якія будуць вучыць пабеларуску. Можна быць пэўнымі, што архіепіскап Феодосі гэну пастанову Кансісторыі зацьвердзіць і такім чынам усе вучыцялі будуць мець магчымасьць пазнаёміцца з беларускім правапісам, беларускай граматыкай, беларусазнаўствам наагул. Мы пераананы, што праслухаўшы такія курсы, шмат хто з праваслаўных сьвяшчэньнікаў інакш будзе глядзець на беларускую мову, якая дагэтуль была для іх мала ведамай, скуль і зьяўляліся розныя засьцярогі да яе. У жыцьці вельмі часта здараецца, што мы шмат якія рэчы недацэньваем выключна з прычыны малога з імі знаёмства.

Мы перакананы, што пры большым знаёмстве з беларускай мовай толькі закаранелыя русафілы будуць і надалей уважаць яе за неадпаведную дзеля навучаньня Закону Божаму.

Аднача сна са справаю навучаньня Закону Божаму кранулася з месца і другая справа, — справа беларусізацыі царквы.

Віленская кансісторыя прыняла пастанову, каб пропаведзі ў царквах віленскае епархіі гаварыліся на беларускай мове. Гэта ўжо даўно было патрэбна, бо той, хто хоць трохі цікавіўся гэтым, добра ведае, як разумелі і разумеюць нашыя сяляне розныя „гаварэньні" у мала зразумелай для іх расейскай мове. Варта тут успомніць хоць-бы адзін з анэкдотаў, у якім апавядаецца аб хворым селяніну, каторы атрымаў разам з лякарствам рэцэпт, дзе было напісана: „принимать по 1 столовой ложке после пищи". Селянін згодна з рэцэптам прынімаў лякарства і зараз-жа пачынаў пішчэць, бо так зразумеў слова „пищи"! Калі такое, здавалася-б простае слова, але чужое, зьяўляецца незразумелым нашым сялянам, што-ж тады казаць пра іншыя „мудреные словы", якімі звычайна нашыя духоўнікі дагэтуль перасыпалі свае пропаведзі, мусіць, трымаючыся ўстарэлага правіла, што чым менш зразуменьня з боку слухачоў, тым больш павагі да гаворачага. У сапраўднасьці-ж гэнае гаварэньне так прыставала да слухачоў, як гарох да сьцяны, і нічога дзіўнага, калі ў рэзультаце ўплывы нашых духоўных прапаведнікаў раўняліся налю. Вось чаму нашыя сяляне мелі ды і цяпер маюць вельмі малое паняцьце аб сапраўдных ісьцінах хрысьціянства, моцна трымаючыся, хоць устарэлых, але як-жа зразумелых для іх розных забабонаў; бо слухаючы—ня чулі, як гэта кажацца ў Евангельлі. Каб палепшыць існуючае палажэньне, неабходна да народу зварочвацца ў зразумелай, роднай яму мове, г. зн. у мове беларускай.

Аднак разам з пропаведзямі ў Царкве мусіць чытацца Евангельле і Апостал таксама ў беларускай мове, што трэба пачаць безадкладна. Як ведама, у некаторых прыходах Апостал чытаецца замест паславянску — парасейску (у прыходзе, дзе сьвяшч. Валынцэвіч).

Калі ўжо ўведзена чытаньне Апосталу парасейску,то чаму-ж ня можна яго чытаць пабеларуску. Цьверджаньне некаторых духоўнікаў, што дасюль яшчэ няма зацьверджанага духоўнай уладай беларускага перакладу Евангельля і Апосталу, ня вытрымоўвае крытыкі. Царкоўная ўлада мусіла даўно паруліцца аб гэтакім перакладзе тым больш, што ў віленскай епархіі існуе нават адумысная **камісія дзеля беларускіх перакладаў.** І калі гэтага перекладу дасюль ня зроблена, то яго можна зрабіць у вельмі хуткім часе, перакладаючы ў першую чаргу на беларускую мову тыя месцы як з Евангельля, так і з Апосталу, якія чытаюцца ў нядзелі ды сьвяты. Усё гэта вельмі лёгка зрабіць, патрэбна толькі добрая воля.

Спадзяемся, што нашыя духоўныя ўлады не затрымаюцца на паўдарозе і лёгічна пойдуць далей у залагоджваньні так важных справаў, што толькі ўзмоцніць праваслаўную Царкву на нашых землях. Тыя, якія пайшлі ці думаюць пайсьці іншым шляхам, хутка пераканаюцца ў тым, якую вялікую шкоду гэтым робяць праваслаўнай Царкве

Ня можа быць ніякага сумліву, што тая прорва, якая існуе між нашым народам і кіраўнікамі епархіі на нашых землях, можа быць засыпана толькі тады, калі нашыя слушныя дамаганьні будуць выконвацца ня толькі на паперы, але і чэсна праводзіцца ў жыцьцё. Компрамісаў тут ніякіх быць ня можа.

*С—ы.*

нуліся ўцякаць. І вось у гэты мамэнт адзін з маніфэстантаў, расейскі салдат, выскачыў з пад муру на сярэдзіну вуліцы, схапіў сьцяг і пабег да плоту. Услед вуліцы гналіся казакі. Нехта выстраліў, цяжка ранячы салдата. Але ранены пасьпеў яшчэ кінуць сьцяг за плот, паваліўся на зямлю і пачаў паўзьці да брамы. Падасьпеўшым яму на помач маніфэстантам салдат гэты перад сьмерцю здолеў сказаць: „Прощайте товарищи! Напишите родным и товарищам в Москве, что я умер в борьбе за свободу". Гэта быў Сяргей Волков, сьлёсар з Масквы. Дзеялася гэта ў 1905 годзе.

1935 год. Палесьсе. У нашую пружанскую гміну назначаны войтам пан Сурвілла з пад Берасьця. Даўся ён нам ў знакі пратаколамі. Праўда, вёска вялікая, але-ж і на яе вялічыню пратаколаў за шмат. Дзейнікамі яго пратаколаў пераважна людзі, якія мелі адвагу залічыць сябе беларусамі, ды да таго дзейнымі. Вось я вучуся на Унівэрсытэце, залічаю сябе беларусам—а гэта войту не падабаецца. Узяў ды напісаў на старую матку пратакол за „nieporządki". Кара—адзін дзень арышту з правам замены на грашовы штраф. Матка ад роду ня мела дачыненьня з карнымі ўстановамі, ня было патрэбы, але на старасьць прыйшлося. Наракае на нас, сыноў, што яшчэ перад сьмерцю, на людакое пасьмешышча, у турму трапіць. На майго дваюраднага брата, які час ад часу пасылаў вершы ў беларускія газэты і часопісі, і на яго бацьку напісалі пратаколы „porządkowe"—у суме 15 зл. кары, або 5 дзён арышту. Бацька ўжо стары—70 гадоў. Ледзь ходзіць, працаваць ня можа, вечна ўсё кашляе, здаецца што зараз нутро яго вывярнецца. А тут арышт, ды за што, — за сына, за яго вершы, за тое, што хоча быць беларусам! Дваюрдны брат сам за сябе адсядзеў—папрацаваў 2 дні ў гмінным арышце пры перапробцы печаў, а за бацьку мусіў заплаціць 10 зл. Сем дзён працаваў у жыда ў Пружане, робячы 10 кілямэтраў у дзень пехатою, каб зарабіць гэтыя грошы.

Такіх пратаколаў у вёсцы ня мала. А за што — за тое, што хочаш быць чалавекам. Нічога дзіўнага, што цяпер людзі на вёсцы баяцца слова прамовіць, сядзяць як вады ў рот набраўшы. Маўчаць... але сваё думаюць.

Пружана, П. Засім.

*Рэдакцыя паведамляе, што надалей пісьмы са скаргамі на парадкавыя пратаколы зьмяшчаць ня будзе,калі карэспондэнт не падасьць дакладна, за што яго штрафавалі.*

*Рэдакцыя.*

**Школьная палітыка кіраўніка м. Шаркаўшчына**, Дзісенскі п.

У нашай пачаткавай школе выкладалася, як прадмет, беларуская мова. Але кіраўніку школы, відаць, яна была сольлю ў воку. Лік гадзінаў беларускае мовы ўсьцяж памяншаўся і ішло да таго, што і як прадмет хвцеў яе кіраўнік Ян Рудніцкі выкінуць з школьнае навукі. У справе гэтай зьвярнуўся гр. Гр. Мэнсак, вучыцель беларускае мовы, да Школьнага Інспэктара, які загадаў кіраўніку спраўдзіць, ці бацькі хочуць вучыць дзяцей беларускай мове.

Кіраўнік школы „пасвойму" зразумеў загад і аказалася, што бацькі ня хочуць. Але як ён гэта зрабіў? А вось як: калі дзіця нейкага селяніна ня было ў школе, кіраўнік заклікаў да сябе бацькоў і насьля „вымувэк" казаў падпісацца, што дзіця будзе хадзіць ў школу.

Несьвядомыя сяляне падпісваліся, а кіраўнік подпісы выкарыстаў на тое, каб паказаць, што бацькі ня хочуць вучыць дзяцей пабеларуску.

Беларусы, калі кажуць аб крыўджаньні іх у культурных адносінах, атрымліваюць адказ:

— Вы самі вінаваты, вы не дамагаецеся школы; патрэбу бел. школы адчувае перадусім інтэлігенцыя, а не народныя масы, якія часта ня хочуць беларускай школы.

Хай прыведзены вышэй факт зілюструе адносіны розных „мясцовых" палітыкаў да жаданьняў і патрэбаў беларусаў.

А такіх фактаў ня мала.

*Шаркаўскі.*

# Пісьмо у рэдакцыю.

Вельмі Паважаны
Пане Рэдактар!

У зьвязку з тым, што ў Вашай газэце ад 15 кастрычніка г. г. у № 26 (78) у стацьці „Духавенства і Народ-Царква" успамінаецца маё прозьвішча, на падставе закону аб прэсе прашу зьмясьціць наступнае:

Заяўляю, што я вельмі далёка стаю ад кіраўніцтва Епархіі, каб мог мець які колечы ўплыў на вырашэньне епархіяльных справаў. Дарадчыкам нашага Уладыкі Архіепіскапа я таксама ніколі ня быў і таму ўважаю зусім няслушным і беспадстаўным успамінаць маё прозьвішча ў ліку тых асоб, якія маглі мець той ці іншы ўплыў на нашага Віленскага Архіепіскапа.

З пашанай
Сьвяшчэньнік *Уладз. Беляеў.*

Дня 19 кастрычніка 1935 г.

# На Далёкім Усходзе.

Як паведамляюць газэты японскае міністэрства замежных справаў заявіла журналістам:

Манджурыя намерана адкрыць тайны, якія акружаюць Савецкую Манголію. Па афіцыяльным весткам, манджурскія і мангольскія дэлегаты ізноў засядалі 16 і 17 кастрычніка. У часе гэтых гутарак мангольскія дэлегаты абяцалі перадаць свайму ўраду прапазыкі Манджурыі, з каторымі яны раней не хацелі лічыцца; цяпер яны чакаюць інструкцыяў.

Манджурыя запрапанавала замену дыплёматычнымі прадстаўнікамі, якія павінны прыбыць у Улан-Батор і Сінверг. Але дэлегат Вонкавай Манголіі адкінуў гэтую прапазыку і дамагаўся, каб прадстаўнікі жылі на самай граніцы абедзьвёх дзяржаваў.

Газэта „Нічы-нічы" у перадавіцы выказвае непакой, што частыя паўтарэньні інцыдэнтаў на манджурска-савецкай граніцы могуць напружыць будучыя адносіны між Манджурыяй і СССР.

Маскоўскі корэспондэнт „Тан" паведамляе, што савецкая прэса выяўляе вялікае незадаваленьне з прычыны спосабаў, якімі карыстаўся Канкі, галава манджурскай дэлегацыі на мангола-манджурскай конфэрэнцыі. Не асягнуўшы згоды ад мангольскіх прадстаўнікоў, Канкі пагражаў ім вырашыць спрэчныя пытаньні пры помачы японa-манджурскіх войскаў.

Палажэньне на Далёкім Усходзе астаецца напружаным — кажа далей корэспондэнт. Японцы, відаць, хочуц за ўсякую цану пашырыць сваё панаваньне і над Вонкавай Манголіяй.

# На італа-абісінскім фронце.

Газэты паведамляюць, што салдаты раса Сэйюма атакавалі італьянскія перадавыя пазыцыі на Захад ад Аксума. Аднак, гэты манэўр ім ня ўдаўся і абісінцы адступілі з вялікімі стратамі. Наступленьне ня ўдалося, галоўным чынам, дзякуючы таму, што пабудаваныя італьянцамі дарогі пазволілі выслаць артылерыю на самыя перадавыя пазыцыі.

Паводле італьянскіх вестак, 40 павадыроў плямёнаў у той частцы правінцыі Цігрэ, якая знаходзіцца ў руках абісінцаў выслала сваіх агентаў з просьбай, каб італьянскія войскі магчыма хутчэй занялі іх тэрыторыю.

——

З Адзіс-Абэбы паведамляюць, што абісінскія войскі, абучаныя бэльгійскай ваеннай місіяй, адправіліся ў прав. Огадэн праз Джыджыгу.

У Джыджыгу прыбыў таксама рас Насібу, які будзе кіраваць дзеяньнямі ў Сомалі.

——

„Пополё ді Рома" паведамляе, што згодна з тэлеграмамі, атрыманымі з Бэрбэры (Ангельскае Сомалі), між Вэгіб—пашаю і абісінскімі камандзірамі паўсталі сур'ёзныя непаразуменьні ў зьвязку з перамогамі італьянскіх войскаў.

Вэгіб-пашу абвінавачваюць у няўдаласьці тактычных плянаў, у апраўданьні чаго Вэгіб-паша паклікаецца на адсутнасьць самалётаў і прымітыўную арганізацыю службы сувязі. Конфліктам, быццам, зацікавіўся сам нэгус, які, хочучы супакоіць абісінскіх камандзіраў і баючыся іх пераходу на італьянскі бок, пастанавіў адклікаць Вэгіб-пашу.

Чытачы хіба ведаюць, што Вэгіб-паша—гэта той самы турэцкі камандзір, які ў сусьветнай вайне праславіўся абаронай Дарданелаў.

——

Ваенныя корэспондэнты ангельскіх газэтаў паведамляюць, што на паўдзённым фронце ў Абісініі трываюць упорныя баі ў раёне Горахаі-Даггерэі. Горахаі—важны цэнтр караванных шляхоў, а так-жа горад, маючы сотні студняў. Дзеля гэтага ўсе высілкі італьянскіх войскаў, знаходзячыхся пад камандай ген. Грацыяні, скіраваны да захопу гэтага пункту, які ў апошнія дні абісінцы зрабілі крэпасьцю.

Італьянцы, заняўшы некалькі новых вёсак у раёне Гарахаі, адкрылі па абісінскім пазыцыям страшны агонь як з гарматаў, так і з самалётаў. Пасьля гэтага італьянская пяхота з туземнымі часьцямі (аскерамі) кінулася ў атаку, але змушаны былі адступіць з вялікімі стратамі. Італьянцы яшчэ 7 разоў наступалі, аднак абісінцы, якімі ў тым раёне камандуе рас Дэсіу, утрымаліся на займаных імі пазыцыях.

# Дыскусыйныя вечары.

*(на правох фэльетону).*

Польскае Радыё ўводзіць новыя аўдыцыі пад назовам „Дыскусыйныя вечары". Гэта будуць такія аўдыцыі, якія вымагаюць пэўнага зборышча людзей. Сабраныя будуць слухаць які-небудзь рэфэрат, пасьля выключаць радыё і пачнуць дыскутаваць над тэмай, парушанай у рэфэраце. Дыскусыяй кіруе нейкая асоба спасярод сабраных, звычайна гаспадар, які запрашае знаёмых на такі дыскусыйны вечар. Вечары такія маюць на мэце ажыўленьне культурнага жыцьця радыё-слухачоў. Выабразім сабе такі культурны дыскусыйны вечар...

Уладыслаў Высядзельскі...
Браніслаў Пісальскі...
Мечаслаў Гендальскі...
Мікалай Бягальскі...
Станіслаў Слухальскі...

Пяць інтэлігентаў - бюралістаў. Усе знаёмыя. Усе радыёслухачы. Слухаюць радыё ад раньня да ночы, так сказаць. А як самі ня слухаюць, то іх жонкі і дзеці слухаюць. Усе штодзень (апрача сьвят і нядзеляў) сядзяць, пішуць, бегаюць, слухаюць, гавораць у канцэлярыях розных ад 8-ай да 14-ай. Прыходзяць пасьля да хаты, дзе іх чакаюць верныя жонкі з гатовым абедам (штодзенныя „неспадзянкі" на абед!..), абедаюць, апранаюць піжаму (такі халат) і лажацца спаць. Засыпаюць пад музыку радыя (адзіная пацеха).

Пасьля сну трохі часу пасьвячаюць дзецям і жонкам. Пасьля вячэраюць, п'юць гарбату, або какао, або каву, або т. п., чытаюць газэту.

Пасьля некаторыя або ідуць у кіна, або да знаёмых, або—спаць. Так што жыцьцё не асабліве, так сказаць.

* * *

Пяць інтэлігентаў. Усе знаёмыя. Усе пяць радыёслухачы. Пастанавілі зьбірацца ў Уладыслава Высядзельскага на дыскусыйныя вечары. Правесьці, так сказаць, культурна вечар.

Слухаюць радыё. Нагамі пакручываюць. Чакаюць хутчэй канца, каб дыскусыю пачаць.

Дыскусыя пачынаецца вельмі ўрачыста. Пан Высядзельскі, як гаспадар, адчыняе дыскусыйны вечар.

— Ну, што-ж, грамадзяне, у гэтай справе, так сказаць!..

Усе кашляюць і не асьмеліваюцца. Урэшце гр. Гендальскі пачынае:

— Бяручы пад увагу ўставу з дня...

Гр. Бягальскі:

— Калі крэдыты, якіх удзяляе банк...

Гр. Пісальскі:

Лік асоб, унёсшых падаткі, значна...

Гр. Слухальскі пазёўвае і нагул ня прыймае ўчасьця ў дыскусыі, а больш заглядаецца на прыгожыя ножкі гаспадыні, якая моўчкі спагадае кожнаму дыскутанту.

Дыскусыя разьвіваецца.

Пераходзіць на тэму рынач̆ных цэнаў.

Кожны з дыскутантаў, аказываецца ўжо абзапасься вугалём, які крэдытуюць склады вугаля... „Pacyfik". Ужо некаторыя наквасілі агуркоў.

Агуркі добрая рэч. Усе згаджаюцца з гэтым. Калі, прыкладам, добрая закусачка, дык агурочак кісьленькі тут зусім на месцы. А да закусачкі добра і „беленькай" дзербануць. З сочкам можна. А хто любіць і бяз сочку... Справа добрая, адным словам. Усе згаджаюцца.

Дыскусыя разьвіваецца далей. Але дзеля таго, што дыскутанты змучыліся трохі, гаспадыня запрашае гасьцей падмацавацца. Доўга чакаць ня прыходзіцца. Дыскусыя пераносіцца ў сталовую, дзе між закусачкай красуюцца графінчыкі.

— Выбачайце, што мала — але, ведаеце, перад першым... — тлумачыцца гаспадыня.

— Але-ж, але — адзываюцца дыскутанты.

Гр. Высядзельскі падтрымлівае дух дыскутантаў і напаўняе чаркі.

Дыскусыя ўсё яшчэ разьвіваецца...

Пачынаецца ўзаемнае цалаваньне і ўрэшце дыскусыя шчасьліва даходзіць да канца.

Надзёрбаўшыся,гаспадар, ледзь трымаючыся на нагах, праводзіць сваіх гасьцей да дзьвераў.

Тыя, раскланіваючыся, нікнуць у васеньнім тумане вуліц.

— Не забудзьцеся-ж у наступную сераду.. Ізноў дыскусыйны вечар — чуюць яны п'яны голас Высядзельскага.

Зачыніўшы дзьверы, Высядзельскі кінуўся да жонкі, моцна пацалаваў яе і крыкнуў:

— Вось калі пачалося культурнае жыцьцё!

І пачалі пяць знаёмых радыёслухачоў жыць культурным жыцьцём. І ўсё дзякуючы новым аўдыцыям пад назовам „Дыскусыйныя вечары".

Трэба спадзявацца, што пасьля першага вечары гэтыя будуць асабліва жывыя, дыскусі таксама. Наагул „дыскусыйныя вечары", трэба думаць, зацікавяць шмат каго з пільных радыёслухачоў, якія слухаюць радыё, так сказаць ад раньня да ночы.

У кожным прыпадку — ажыўленьне будзе значнае.

Публіка чулая на культурныя пачынаньні. *Ш.*

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22, Тэл. 21-14.